№17 (162)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Снежань 2013 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Государственный долг Беларуси на 1 ноября 2013 года составил 144,6 трлн рублей и увеличился по сравнению с началом года на 12,3%, сообщила пресс-служба Минфина.**

Внешний госдолг на 1 ноября составил 12,2 млрд долларов, увеличившись с начала года на 144,6 млн долларов, или на 1,2%.

Внутренний государственный долг по состоянию на 1 ноября составил 32,7 трлн рублей, увеличившись с начала года на 6,9 трлн рублей, или на 26,6% (с учетом курсовых разниц).

### У Прыдняпроўі

**Могилевская область – в лидерах по использованию населением пластиковых банковских карточек. Более 30% всех покупок и услуг оплачивается населением без использования наличных денег.**

Популярность безналичных расчетов специалисты связывают в возросшей финансовой сознательностью населения, а также - увеличением количества банкоматов, инфокиосков и платежных терминалов, которых на территории области – почти 7000.

### У раёне

Па стане на 1 лістапада бягучага года ў Бялыніцкім раёне пражывае 7 ВІЧ-інфіцыраваных: двое з Бялынічаў і пяцёра з сельскай мясцовасці. З 7 чалавек – шасцёра інфіцыраваліся палавым шляхам, адно дзіця інфіцыравалася ВІЧ ад маці.

У 2013/2014 навучальным годзе ў школах Бялыніцкага раёна навучаецца **2053** вучні. З іх першага верасня ўпершыню селі за парты 207 першакласнікаў.

Пры гэтым навучальны працэс у школах раёна ажыццяўляюць **507** працаўнікоў на ніве адукацыі, з іх 72% маюць вышэйшую адукацыю, 70% маюць вышэйшую і першую кваліфікацыйныя катэгорыі.

# СТАБІЛЬНАЕ ПАДАРАЖЭННЕ Ў СТАБІЛЬНАЙ КРАІНЕ

***Мы неяк ужо прызвычаіліся, што ў нашай роднай краіне кожны месяц стабільна падвышаюцца кошты на самыя розныя тавары і паслугі.***




Не паспеў пачацца снежань, як нашы “барацьбіты за квітнеючую Беларусь” з урада краіны зноў абвесцілі пра тое, што, для таго, каб беларускі народ жыў яшчэ больш заможна і шчасліва, ён павінен больш плаціць за цэлы шэраг тавараў і паслугаў.

Для ўдзячных беларусаў, якія жывуць у стабільнай квітнеючай Беларусі пад мудрым кіраўніцтвам нашага любімага кіраўніка і яго верных чыноўнікаў, зноў паднялі кошты на праезд у грамадскім і прыгарадным транспарце, тарыфы на тэлефонную сувязь і звадкаваны газ у балонах, цэны на цыгарэты і мабільную сувязь. Літаральна за некалькі дзён перад гэтым падаражэлі хлеб, малако і яйкі, аднак да росту коштаў на прадукты мы неяк ужо прызвычаіліся. Незадарма ж наш любімы кіраўнік сказаў, што беларусам патрэбна менш есці, а больш бегаць – трэба выконваць яго парады, тады мы будзем стройнымі і прыгожымі (ва ўсялякім выпадку, Аляксандр Рыгоравіч так лічыць).

Па неафіцыйных звестках, наш слаўны ўрад не збіраецца спыняцца на дасягнутых паказчыках. Ужо бліжэйшым часам запланаванае падвышэнне коштаў на паліва, камунальныя паслугі, электраэнергію, лікёра-гарэлачныя вырабы і шэраг харчовых тавараў. Калі падумаць, дык, па логіцы чыноўнікаў, яно і правільна – людзі церпяць, значыць, пагаджаюцца, можна далей душыць. Гэта дзесьці там у праклятых буржуінаў народ змагаецца за свае правы, не паспее нешта падаражэць – сотні тысячаў працоўных на вуліцы выходзяць. Нашы людзі не такія, яны ўдзячныя нашаму любімаму кіраўніку за стабільнасць і за тое, што няма вайны. А пастаянны шалёны рост коштаў – гэта, можа, так і трэба. Што ж зробіш, калі нашы нязменныя чыноўнікі, якія кіруюць з камуністычных часоў, не абдзіраючы народ жыць не навучыліся…

Тым больш, што “моцную квітнеючую Беларусь” яны далей ужо будаваць не збіраюцца (верагодна, для сябе і сваіх дзетак ужо пабудавалі). На днях першы намеснік Кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта і па сумяшчальніцтве лідар ГА “Белая Русь” Аляксандр Радзькоў сказаў: “За сильную и процветающую Беларусь!” – это хорошо, но надо дальше

*(Заканчэнне на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## СТАБІЛЬНАЕ ПАДАРАЖЭННЕ Ў СТАБІЛЬНАЙ КРАІНЕ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

идти, какие-то новые аспекты искать".

Яно і зразумела, у той сітуацыі, да якой давялі нашу краіну нашы слаўныя кіраўнікі, казаць пра нейкае"квітненне" можа толькі хворы на галаву чалавек…

Пакуль жа мы можам ганарыцца толькі тым, што наша родная Беларусь з'яўляецца нязменным лідарам сярод краінаў былога СССР па росту коштаў.

Згодна паведамлення БелаПАН, у Беларусі за 10 месяцаў 2013 года цэны павялічыліся на 12%, у Расіі - на 5,3%, Казахстане і Малдове – 3,6%, Арменіі – 3,5%, Таджыкістане – 3,1%, Эстоніі – 2,5%, Кыргыстане – 2%, Азербайджане – 1%, Літве – 0,6%, Грузіі – 0,5%.

У Латвіі кошты не змяніліся, у Украіне знізіліся на 0,2%, у Туркменістане – на 0,5%.

Як адзначае агенства БелаПАН, у 2011 і 2012 гадах Беларусь таксама была лідарам па росту цэн сярод краінаў былога СССР (108,7 і 21,8%).

Спадзяваццa на тое, што бліжэйшым часам мы гэтае сумнае лідарства каму-небудзь саступім і сітуацыя з пастаянным ростам коштаў неяк зменіцца, не даводзіцца – пакуль людзі маўчаць і церпяць, цэны будуць працягваць стабільна расці.

***Іван Барысаў***

## НЕ ВЫДЕРЖАЛА...

**В Белыничском районе молодая продавщица присвоила денежную выручку и товар.**

2 декабря Следственным комитетом возбуждено уголовное д ело по ст. 211 ч. 1 УК (Присвоение либо растрата) в отношении неработающей жительницы г.п. Белыничи, 1993 г.р., которая в период с 10 июля по 15 сентября, работая продавцом в магазине «Родны кут» Белыничского РАЙПО, присвоила денежную выручку и товар на сумму 20 миллионов рублей, сообщает сайт uvd.mogilev.by.

## ТЮРЬМА ИЛИ БОЛЬНИЦА?

***Нормальный человек не станет давать новую жизнь вещам, место которым - на помойке.***




Агропромышленный гламур принимает самые причудливые формы. За последние два десятка лет наличие фанерного аиста у стены предприятия или во дворе дома стало считаться признаком материального благополучия и даже патриотизма.

А если ты замахнулся на зубра, собранного из подручных материалов, то можешь считать, что попал в первые строчки рейтинга конкурса «Властелин села».

Ничего, что улыбка соломенного агрария, установленного на обочине дороге, пугает в темное время суток детей и взрослых – чем болезненнее фантазии белорусских идеологов, тем больше они отвечают канонам разного рода «дожинок».

Причем сами организаторы псевдопатриотических конкурсов «властелинами сел» упорно становиться не желают, а предпочитают прикупать квартирки в районных, областных центрах или в Минске.

У них во дворах не увидишь пальм, собранных из пивных бутылок. Эти любители всего белорусского оформляют свои коттеджи в лучших

*(Окончание на стр. 6)*

## ЧЕМ МАТЬ МЕШАЛА?

***22 ноября в своем доме в д. Заболотье Белыничского района был обнаружен труп пенсионерки 1932 года рождения.***

В ходе дознания сотрудники правоохранительных органов установили, что, находясь в состоянии алкогольного опьянения, в ссоре, ее избил проживающий совместно сын 1966 года рождения. Многие жители Мощаницкого сельсовета хорошо знают этого человека, для них остаётся загадкой, почему неработающий 47-летний мужчина, которого всё последнее время фактически содержала мать, стал бить пожилую женщину по лицу и по голове.

Подозреваемый в совершении убийства задержан в порядке статьи 108 УПК. Белыничским районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 139 ч. 2 Уголовного кодекса (Убийство).

Сыну придется ответить за убийство заведомо престарелого лица по всей строгости закона.

К сожалению, ноябрь стал "урожайным" на убийства для нашего Белыничского района. Напомню, что 5 ноября в Белыничах в подъезде одного из домов было обнаружено тело 41-летнего мужчины. На следующий день сотрудники судебно-медицинской экспертизы установили, что смерть явилась результатом закрытой травмы живота с повреждением внутренних органов и внутрибрюшным кровотечением.

Сотрудники милиции выяснили, что смертельные удары жертве нанёс 45-летний ранее судимый житель Белынич, вместе с которым они совместно распивали алкогольные напитки. По данному факту Белыничским районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 147 ч. 2 Уголовного кодекса (Причинение тяжких телесных повреждений, повлекших по неосторожности смерть потерпевшего).

До ноября месяца в Белыничском районе в 2013 году не было зарегистрировано ни одного убийства.

***Виктория Белова***

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ НЕ ЗДРАДЗІЦЬ

***Цяжка знайсці ў дэмакратычным асяроддзі Магілеўшчыны чалавека, які б не ведаў Барыса Бухеля. А сярод тых, хто сутыкнуўся ў сваей дзейнасці з нашай судовай альбо праваахоўчай сістэмай,такіх знайсці зусім немагчыма.***



***Барыс Бухель***

Воляй лёсу на Барыса Леанідавіча ўзваліліся праблемы абароны людзей. Ужо не адзін год ён ўзначальвае Магілеўскі правабарончы цэнтр. Цяжка зараз падлічыць, колькі разоў яму за гэты час прыйшлося прайсці праз суды, сутыкнуцца сам на сам з неправамернымі дзеяннямі супрацоўнікаў міліцыі, адбываць пакаранне ў ізалятары часовага ўтрымання.

У цяперашніх умовах вельмі цяжка супрацьстаяць адладжанай рэпрэсіўнай дзяржаўнай машыне. На вялікі жаль, пакуль часцей за ўсе, такіх людзей, як Бухель і яго аднадумцы, чакаюць паразы. Але нягледзячы ні на якія цяжкасці, Барыс Леанідавіч дзень за днём працягвае займацца сваёй справай.

І за гэты час у дапамозе нікому не было адмоўлена. Крылатым сярод магілёўскім грамадскіх актывістаў стаў выраз Барыса Леанідавіча: цяперашняе чынавенства павінна аберагаць праваборонцаў, таму што калі яны будуць адхілены ад улады, то ня будзе да каго звярнуцца па дапамогу.

Не аднойчы, падчас выбарчых кампаній, прыходзілася спадару Бухелю ў якасці назіральніка адстойваць літару закона ў няроўным супрацьстаянні з чальцамі выбарчых камісій, выконваючых загады на фальсіфікацыю з боку ўладнай вертыкалі.

Магілеўскі "Грамадскі магістрат" прызнаў Барыса Бухеля "Чалавекам году". Было адзначана, што Барыс Леанідавіч на працягу больш як за дваццаць год займаецца вельмі цяжкай працай і робіць гэту працу спакойна і сумленна.

Пры гэтым, у штодзённым жыцці Барыс Леанідавіч застаецца вельмі сціплым чалавекам. Па словах старшыні Каардынацыйнай рады Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сіл Юрыя Новікава, гэты чалавек ніколі не падмане і не здрадзіць. Таму што на першым месцы ў такіх людзей заўседы стаіць сумленне.

***salidarnasc.org***

# ЧЕЛОВЕК, КОТОРЫЙ ДОСТУЧАЛСЯ ДО!

***Белыничи — небольшой райцентр в Могилевской области, однако и здесь хватает неравнодушных людей. И один из них — общественный активист Петр Шимбалев, который стал известен многим белыничанам благодаря своей активной позиции по отстаиванию интересов многодетных семей при строительстве дома для них.***

Члены ПЖСК «Двенадцать» избрали его своим председателем. Петр вместе с женой воспитывает троих маленьких детей — Мирона, Меланию и Евангелину, он глубоко верующий человек.

Многодетным пришлось пройти множество самых разных инстанций, чтобы получить жилье в новом доме по приемлемым ценам. И добиться успеха смогли во многом благодаря лидерским и организаторским качествам Шимбалева.

Послушаем его:

— Еще 2 марта 2012-го райисполком предложил нам объединиться в ЖСК, дом на двенадцать квартир чиновники обещали построить быстро и качественно, до конца года. Мы очень быстро подготовили необходимые документы, но тут все затормозилось: неофициально пояснили — в связи с тем, что все строительные мощности задействованы на подготовке к «Дожинкам» в Горках.

Однако основные испытания ожидали впереди. Из-за нерасторопности бюрократов льготные кредиты выделили, исходя из показателя стоимости строительства 4,6 млн рублей за 1 квадратный метр, как это определено постановлением Совета министров Республики Беларусь № 1023 от 6 ноября 2012 года.

Между тем реальная стоимость «квадрата» для ПЖСК «Двенадцать» составила 7 994 806. То есть следовало доплатить из собственных средств по 3 394 806 рублей за квадратный метр либо отказаться от строительства.

Понятно, таких денег у многодетных семей просто не было. Не могли они взять и нельготный кредит, ведь при их уровне доходов ни один банк не рискнул бы пойти на такой шаг — как многодетные семьи смогут его выплачивать, если уровень зарплат в районе мизерный?

Самое главное, многодетные и не требовали каких-либо особых льгот — просто хотели, чтобы действительно работал тринадцатый указ президента о реальной помощи такой категории граждан, как они.

Пришлось обращаться в десятки разных инстанций, везде натыкались на непонимание и безразличное отношение со стороны чиновников разного уровня. Какую-то поддержку попробовал оказать только член Совета Республики НС РБ Валерий Иванов, однако и его усилия не принесли должного результата. Добиться успеха члены ПЖСК «Двенадцать» смогли только после того, как белыничскую проблему озвучили в июне на совещании у руководителя

*(Окончание на стр. 4)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЕЛОВЕК, КОТОРЫЙ ДОСТУЧАЛСЯ ДО!

*(Оконч. Начало на стр. 3)*



***Пётр Шимбалёв***

государства. Заслушав информацию, он обязал чиновников решить задачу ЖСК «Двенадцать».

— Но даже после этого не сразу смогли вселиться, — рассказывает Петр Шимбалев. — Дом сдали в конце июня, а ключи мы смогли получить только в середине августа, после того как в Белыничи приехал тогда еще первый заместитель председателя Могилевского облисполкома, а ныне министр архитектуры и строительства Анатолий Черный.

Но и на этом испытания не закончились. Ведь вопрос о том, из каких источников профинансируется полная стоимость квартир в доме ПЖСК «Двенадцать», по-прежнему остается открытым. Пока оптимальное решение так и не найдено.

— Сейчас этот вопрос подняло руководство Белыничской ПМК-241 (именно она занималась постройкой дома), направив соответствующую претензию на адрес КУП «Белыничский Капстрой», о чем уведомил его директор Николай Скугарев, — продолжает председатель ПЖСК «Двенадцать». — Мы опасаемся, что местные власти снова предпримут какие-то неадекватные действия, несмотря даже на прямое указание президента. Ведь вопрос с погашением льготного кредита на постройку жилья в полном размере для членов ПЖСК «Двенадцать» окончательно не решен. Несмотря на то, что мы получили технические паспорта на квартиры и давно заселились в них, успокаиваться не приходится.

Но Петр Шимбалев верит: справедливость восторжествует. Благодаря многомесячной борьбе за соблюдение интересов многодетных семей, он хорошо понял — только постоянно отстаивая свои права, можно добиться победы в противостоянии с чиновниками разных уровней.

Шимбалев недавно решил пойти на выборы в качестве кандидата в депутаты, это принципиально. Считает: тогда он сможет защищать интересы своих земляков на более высоком уровне.

Удачи!

***Иван БОРИСОВ. "Свободные новости"***

# ЮРЫЙ НЕСЦЯРЭНКА РЫХТУЕ "НЯПРОСТЫ" НОВЫ АЛЬБОМ

***Блюзмэн з Бялынічаў выклаў у Інтэрнэт заглаўны сінгл сваёй новай пласцінкі.***

Лідар гуртоў "White Night Blues" і "Nestary Band", Юрый Несцярэнка прэзентаваў у Інтэрнэце сінгл "Аэрапланы ў вырай". Трэк стане заглаўнай кампазіцыяй яго новага альбома.

— У песні прысутнічае адчуванне самоты і тугі ў межах беларускай прасторы, — распавёў Юрый Несцярэнка euroradio. — Увогуле да песень новай пласцінкі варта прыслухацца. Гэта тэксты не напісаныя штучна, пад нейкую замову ці для нейкага праекту. Яны пісаліся, як адчуваліся. Адпаведна, яны цікавыя і няпростыя, не разлічаныя на лёгкае ўспрыманне.

Новы альбом Юрыя Несцярэнкі убачыць святло ў апошнія дні старога ці ў першыя дні новага года. Яе блюзмэн стварыў цягам трох гадоў.

Пласцінка будзе мець назву "Аэрапланы ў вырай". У музычным сэнсе альбом будзе традыцыйным для Несцярэнкі: рок з элементамі фанка і блюза.



***Юрый Несцярэнка***

## МОШЕННИК ПОЛУЧИЛ ПО ЗАСЛУГАМ

Мошенник, обещавший менять оконные рамы, осужден на 6 лет лишения свободы. Такой приговор получил житель Могилева за мошенничество.

Мужчина предлагал свои услуги по изготовлению и установке окон и рам из ПВХ. Со своими клиентами он заключал договоры, брал предоплату и исчезал, не выполняя никаких работ. Несколько человек в нашем Белыничском районе также попались на удочку лже-предпринимателя.

Следствие установило, что всего таким образом могилевчанин обманул 68 человек, присвоив более 243 000 000 рублей.

Усе нумары газеты "Паходня" можна прачытаць у інтэрнэце па адрасе:http://kamunikat.org/pachodnia.html

# КДБ ЗАТРЫМЛІВАЎ ГАНАРОВАГА ГРАМАДЗЯНІНА БЯЛЫНІЦКАГА РАЁНА?

На мінулым тыдні ўсю беларускую інтэрнэт-прастору літаральна “узарвала” інфармацыя аб затрыманні супрацоўнікамі КДБ былога дэпутата Палаты прадстаўнікоў ад нашага Бялыніцкага раёна Уладзіміра Канаплёва, якую распаўсюдзіў інтэрнэт-сайт газеты “Прессбол”. Пазней сам Уладзімір Канаплёў гэту інфармацыю абверг, назваўшы яе “глупствам”. Наш былы дэпутат сказаў, што ён проста некалькі дзён адпачываў дома разам з жонкай.

Між тым некаторыя крыніцы сцвярджаюць, што затрыманне Уладзіміра Канаплёва сапраўды мела места. Так гэта, ці не, дакладна вядома толькі Уладзіміру Канаплёву і супрацоўнікам камітэта дзяржбяспекі. Газета “Паходня” нагадае некаторыя факты з жыцця Ганаровага грамадзяніна Бялыніцкага раёна Уладзіміра Канаплёва, пра якія ўзгадаў у сваім артыкуле ў газеце “Наша ніва” журналіст Ягор Марціновіч.

# ПЯЦЬ ФАКТАЎ ПРА УЛАДЗІМІРА КАНАПЛЁВА

***Шклоўскі географ, які праваліў імпічмент і сышоў у гандбол, быў адным з самых уплывовых беларусаў.***

Паводле інфармацыі «Прессбола», КДБ праводзіць праверку па справе ўчорашняга чыноўніка аргкамітэта чэмпіянату свету па хакеі Генадзя Аляксеенкі і старшыні нацыянальнай федэрацыі гандбола Уладзіміра Канаплёва. Абодва былі затрыманыя, але вядома, што Канаплева пасля трох сутак арышту адпусцілі на свабоду (Пазней стала вядома, што Генадзь Аляксеенка таксама знаходзіцца на волі. Абодва спартыўныя функцыянеры сцвярджаюць, што ніякага затрымання супрацоўнікамі КДБ не было, гэта проста “качка”, якую распаўсюдзілі недобразычліўцы –заўв. выд.).

Затрыманне аднаго з найбліжэйшых паплечнікаў Аляксандра Лукашэнкі — добрая нагода, каб узгадаць некаторыя факты з ягонай біяграфіі.

## Шклоўскі

Будучы палітык нарадзіўся ў вёсцы Акулінцы Магілёўскага раёна. Дарэчы, наконт яго даты нараджэння ёсць розныя меркаванні.

Як і ў Аляксандра Лукашэнкі, у Канаплёва блытаніна з днямі нараджэння. Іх… два. Паводле пашпартных звестак, ён нарадзіўся 3 студзеня 1954. Гэта значыцца, што на пенсію Канаплёў выйдзе праз месяц. Але некалькі тыдняў таму, 14 лістапада, гандбольная федэрацыя ўжо віншавала яго з 60-годдзем. Паводле іх дакументаў, Канаплёў нарадзіўся 14 лістапада 1953 г.

Кар’ера Уладзімір Канаплёва да яго прыезду ў Мінску ўключала ўсяго два гарады — Магілёў і Шклоў.

У Магілёве Канаплёў атрымаў вышэйшую адукацыю. У тыя часы і адбылося яго лёсавызначальнае знаёмства з Аляксандрам Лукашэнкам. Яно здарылася ў сценах Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта. «Мы вучыліся паралельна з прэзідэнтам у 1971—1975. Ён гісторык, я — географ. Першыя два гады жылі ў адным інтэрнаце, на адным паверсе, — расказваў Канаплёў «Камсамольскай праўдзе». — Нас яднаў спорт. Гэта ў першую чаргу футбол. На гістфаку была добрая каманда, і Лукашэнка гуляў у ёй не апошнюю ролю. Я на геафаку сціпла гуляў у абароне. Паміж намі было пэўнае суперніцтва з пераменным поспехам».

Адслужыўшы ў войску, Канаплёў размеркаваўся ў Шклоў, дзе правёў наступныя 15 гадоў свайго жыцця. Працаваў настаўнікам геаграфіі ў гарадской школе-інтэрнаце, намеснікам дырэктара сярэдняй школы, а пасля інспектарам па справах непаўналетніх у шклоўскай міліцыі.

## Сарваў імпічмент

У камандзе Лукашэнкі Канаплёў апынуўся ў 1991-м. Да прэзідэнцкіх выбараў ён лічыўся памочнікам народнага дэпутата, сумяшчаючы гэтыя абавязкі з працай у школе. Актыўна ўдзельнічаў у выбарчай кампаніі, сабраўшы са сваёй камандай каля 70 тысяч подпісаў за Лукашэнку.

Пасля перамогі стаў галоўным памочнікам прэзідэнта. У 1995 Канаплёў быў абраны ў парламент. Там ён пратрымаўся да 2007, прычым апошнія гады — спікерам.




«Хвіліна славы» Канаплёва ў гісторыі Беларусі — гэта сарванае галасаванне ў парламенце ў 1996-м.

Вярхоўны Савет рыхтаваў імпічмент Аляксандра Лукашэнкі, а той хацеў разагнаць парламент з дапамогай рэферэндуму. Быў дасягнуты папярэдні кампраміс: дэпутаты спыняюць працэдуру імпічменту, а Лукашэнка адмаўляецца ад правядзення рэферэндуму.

Аднак у апошні момант Канаплёў, кіраўнік прапрэзідэнцкай фракцыі «Згода», даў загад сваім паплечнікам у парламенце прагаласаваць супраць кампраміснага рашэння. Гэта

*(Заканчэнне на стар. 5)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ПЯЦЬ ФАКТАЎ ПРА УЛАДЗІМІРА КАНАПЛЁВА

*(Заканч. Пачатак на стар. 4)*

дало падставу Лукашэнку прызначыць рэферэндум і на ім змяніць канстытуцыю. А імпічмент ажыццявіць так і не ўдалося.

## Сышоў у гандбол

У 2007 Канаплёў, спаслаўшыся на дрэннае здароўе, сышоў з палітыкі. На той час на ім «вісела» гандбольная федэрацыя. Канаплёў не стаў адракацца яе і ўсур'ёз заняўся спортам.

Дзякуючы Канаплёву беларускі гандбол атрымаў другое дыханне, прызнавалі эксперты. Наменклатурныя сувязі дазвалялі яму забяспечваць фінансаванне гэтага віду спорту нават пасля адстаўкі.

З усіх чыноўнікаў-кіраўнікоў федэрацый ён быў самым паспяховым.

Мужчынская зборная стала зноў трапляць на топ-турніры, і нават самы дарагі гандбаліст свету беларус Сяргей Рутэнка вырашыў гуляць не за зборную Іспаніі, а за родную Беларусь.

## Ціхае жыццё ў Драздах

Як і іншыя лукашэнкаўцы, у сярэдзіне 2000–х Канаплёў пасяліўся ў асабняку ў Драздах. Плошча 600 квадратаў, тры паверхі, тэраса, альтанка ў двары, паўкіламетра да возера — пастаральнае жыццё багатага пенсіянера.

Ды яшчэ і прыемныя суседзі побач — «памежнік» Леанід Мальцаў і сям'я былога мэра Міхаіла Паўлава.



*Дом Уладзіміра Канаплёва ў Мінску*

Раней Канаплёў жыў у службовай чатырохпакаёўцы каля «Белай вежы», аднак кватэру не прыватызаваў, вярнуў дзяржаве.

## Сыны ў бізнэсе

Канаплёў адышоў ад дзяржаўных справаў, затое пачалі рабіць кар'еру ягоныя сыны. Яны знайшлі сябе ў камерцыі. Малодшы Дзяніс пяць гадоў таму працаваў намеснікам дырэктара па ідэалагічнай працы ў мінскім рэстаране. Цяпер ён стаў паўнавартасным бізнэсмэнам — набыў бар насупраць Кастрычніцкай плошчы. Дзянісу Канаплёву належыць City-cafe Boulevard.

Як даведалася «Салідарнасць», ён уласнік яшчэ і Wine&whiskey bar Міхх на рагу праспекта Машэрава і вуліцы Чырвонай.

Пра старэйшага сына Мікалая вядома менш. Пазалетась Уладзімір Канаплёў у інтэрв'ю «Народнай газеце» расказаў, што сын вывучыў кітайскую мову і мае бізнэс у гэтай краіне.

***Ягор Марціновіч, "NN.by"***

# ТЮРЬМА ИЛИ БОЛЬНИЦА?

*(Оконч. Начало на стр. 2)*

традициях западного, пусть вражеского, но такого симпатичного ландшафтного дизайна.

Если заглянуть в корень проблемы, то станет очевидно, что свои истоки она берет не в передаче «Пока все дома» с ее народным «очумельцем» Бахметьевым.

Диагноз гораздо серьезнее. Нормальный человек не станет давать новую жизнь вещам, место которым - на помойке. Истоки этой традиции – в исправительно-трудовых колониях и в больницах.

Только обитатели этих мест начинают задумываться над тем, как соорудить ножик из ложки или рыбку из капельницы. И с бережливостью эта тенденция не имеет ничего общего. Дело здесь скорее в безысходности.

Вот и выходит, что страна, в которой всячески поощряется производство пальм из пластиковых бутылок, является или большой больницей, или громадной тюрягой, а граждане ее – в лучшем случае пациентами палаты номер шесть. В худшем, вообще, зеками.

***Сергей Антонов***

### Наш земляк стал заместителем председателя Могилёвского горисполкома

Заместителем председателя Могилёвского городского исполнительного комитета назначен Андрей Михайлович Кунцевич. Официальное представление и вручение соответствующего удостоверения прошло 2 декабря на расширенном совещании.

Андрей Кунцевич родился в 1979 г. Прошёл путь от корреспондента до главного редактора Белыничской районной газеты «Зара над Друццю», работал заместителем председателя Шкловского райисполкома, начальником управления идеологической работы Могилёвского облисполкома.

# А СУДЬИ – КТО?

Она пришла ко мне. Худенькая, раньше времени постаревшая, с детскими наивными глазами, в которых читался недоумённый вопрос - «За что?».

Вопрос у неё был бытовой. Нелады с соседкой, которая пользуясь своей безнаказанностью, провоцировала её на всевозможные конфликты. Вот и сейчас, пока она ходила в лес по грибы, соседка, словив бездомного котёнка, бросала его ей во двор до тех пор, пока собака не сорвалась с привязи и, сломав забор, застряв в нём замком, бегала по переулку, насколько позволяла цепь. Соседка вызвала работника милиции заявлением, что собака покалечила её кота. Был составлен административный протокол, её вызвали на административную комиссию Круглянского райисполкома.

Казалось бы, что раз комиссия - то должна разобраться по существу, с выездом на место произошедшего, чтобы быть объективными, и не только решить вопрос со штрафом, но и помочь двум женщинам найти общий язык, ведь жить-то им придётся всё равно рядом. Тем более, что она, хозяйка собаки, об этом и просила – помирить их. Не было видимых причин им ссориться, просто нужно было вмешательство компетентных органов, чтобы погасить конфликт.

Административная комиссия пошла по проторенному пути: наложила на хозяйку собаки штраф в одну базовую величину, представив это как «святое благодеяние», могли бы, мол, дать и побольше. Но женщина не чувствовала себя виноватой, хотя у неё и очень высокая требовательность к своей вине – она верующая. Ей стало очень обидно, что поверили не ей, а злобствующей без причины соседке и подыгрывающему ей работнику милиции. Ей было невдомёк, что административная комиссия выполняет только функцию карающего органа. Милиция ей способствует. И обе эти инстанции озабочены только одним: пополнением местного бюджета! Им доведён план!!!




Но самое интересное даже не в этом! В нормативных документах об административных комиссиях сказано, что членов в таких комиссиях должно быть около десятка, а заседать должно не менее пяти и принимать решения коллегиально, т.е. методом голосования. А на самом деле «судили» мою знакомую два человека. Две девочки, как выразилась эта пожилая женщина. И им было не понять, что и 130 000 рублей для пенсионерки деньги большие. Тем более, что она не была виновата в созданной искусственно соседкой ситуации. Почему же тогда члены административной комиссии, сами нарушая закон!!, заседая вдвоём, вправе стать ещё одним карающим органом власти? Уж если это комиссия, то и работать она должна не формально, а помогать людям в их проблемах, устранять мешающие нам житейские противоречия. То есть, она должна работать с людьми! А не только решать вопрос, сколько денег оттяпать у провинившихся. Иногда бывают такие сложные обстоятельства, что человек без вмешательства извне и решить вопрос не может. Вот тогда и начинается работа и депутатов местного совета, и работа членов административной комиссии. А то получается как в «Ревизоре» Гоголя Н.В., где унтер-офицерская вдова сама себя высекла. Конечно, намного проще, сидя в здании райисполкома, не поднимая, простите за выражение, задницу от стула, судить, чаще всего, стариков и старух за то, что они или ошиблись, или по немощи своей не доглядели за курицей или собакой, и выписывать штрафы направо и налево. Не знаю, как там насчёт пополнения районного бюджета, но то, что такими действиями подрывается авторитет власти не только на местах, но и верховной, могу сказать точно. Ведь члены комиссий сами дают понять, что работают они по указке свыше, и каждое вынесенное решение – это камушек на весы так называемого правосудия. И камней собирается, порой, так много, что они, в конце концов, могут стать оружием пролетариата. А вот этого, по-моему, даже президенту не надо!

***Зинаида Милещенко***

# АСУДЖАНЫ КРЫЧАЎСКІ МІЛІЦЫЯНЕР, ЯКІ ВЫБІВАЎ ПРЫЗНАННІ Ў ЗАТРЫМАНАГА

***Малодшы оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку Крычаўскага РАУС, старэйшы сяржант міліцыі асуджаны Бабруйскім міжгарнізонным судом за тое, што ў літаральным сэнсе выбіваў прызнанне ў жыхара Крычава, каб атрымаць ад яго паказанні ў здзяйсненні злачынства, якога той не здзяйсняў.***

Крычаўскі міліцыянер асуджаны Бабруйскім міжгарнізонным ваенным судом па ч.3 арт. 426 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (перавышэнне ўлады альбо службовых паўнамоцтваў) і п.9 ч.2 арт. 147 КК РБ (наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання). Па сукупнасці злачынстваў малодшаму оперупаўнаважанаму крымінальнага вышуку Крычаўскага РАУС прызначана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам 6 гадоў з накіраваннем у калонію ўзмоцненага рэжыму, без канфіскацыі маёмасці, з пазбаўленнем адмысловага звання "старэйшы сяржант міліцыі", з пазбаўленнем права займаць вызначаныя пасады тэрмінам на пяць гадоў.




Мы ўжо пісалі пра тое, што крычаўскія міліцыянеры затрымалі грамадзяніна Л. у снежні 2012 года, ён праходзіў у якасці падазраванага ў крадзяжы у Крычаўскім УКПП "Камунальнік". Супрацоўнікі міліцыі прымянілі меры фізічнага ўздзеяння к падазраванаму, у выніку гэтага ён атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні. Пасля вызвалення грамадзянін звярнуўся з заявай у Крычаўскі міжрайаддзел КДБ.

Па словах рэдактара незалежнай Крычаўскай газеты "Вольны горад" Сяргея Няроўнага, ён здзіўлены тым фактам, што да крымінальнай адказнасці за збіццё падазраванага прыцягнуты толькі адзін супрацоўнік крычаўскай міліцыі.

"Я здзіўлены, што да крымінальнай адказнасці прыцягнуты толькі адзін супрацоўнік крычаўскай міліцыі, - кажа Сяргей Няроўны. – Згодна нашай інфармацыі, у збіцці падазраванага ў будынку Крычаўскага РАУС удзельнічала некалькі супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Зараз мы будзем высвятляць тое, якія вызначэнні вынес Бабруйскі міжгарнізонны суд адносна тых парадкаў, якія існуюць у нашым Крычаўскім РАУС".

***Сяргей Семяновіч***

## ОБЛОМКИ ДВУХ САМОЛЕТОВ ВРЕМЕН ВОЙНЫ ОБНАРУЖЕНЫ В БЕЛЫНИЧСКОМ И ЧАУССКОМ РАЙОНАХ

Обломки двух самолетов времен Великой Отечественной войны обнаружены в Белыничском и Чаусском районах. Об этом сообщил БЕЛТА руководитель Могилевского областного историко-патриотического поискового клуба "Виккру" Николай Борисенко.

Обгоревшие обломки самолетов обнаружены местными жителями в лесных массивах. "Пока мы не можем по ним установить марки бортов. Попытку это сделать планируется в ходе весенней экспедиции с участием бойцов 52-го отдельного специализированного батальона Минобороны. Мы надеемся обнаружить двигатели подбитых бортов. На них могут сохраниться номерные знаки, что может помочь расшифровать историю трагического полета и установить имена экипажей", - сказал Николай Борисенко.

Он также подчеркнул, что уверенность в этом придает предыдущая находка, - поднятые в ноябре обломки Ли-2 возле деревни Макаренцы под Могилевом. "Нам удалось найти авиационный пулемет ШКАС, поднять две лопасти самолета, а также двигатель, на котором мы смогли прочитать номер. "Мы уже отправили запрос в военную часть, дислоцирующуюся в российском Подольске, для установления имен погибшего экипажа. Именно туда был отправлен самолет после изготовления на заводе", - рассказал Николай Борисенко.

ПАХОДНЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 04.12. 2013 г. у 09-00.